З надыходзячым Днём Перамогі!

# Народная Воля

№ 35 (4082)

6 мая 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


ДА ЎВАГІ!

## У сувязі са святамі…

*Наступны нумар "Народнай Волі" выйдзе толькі 13 мая. І не віна рэдакцыі ў гэтым. У сувязі з Днём Перамогі і Радаўніцай мяняецца графік работы транспартнікаў, сувязістаў, друкароў, рознічных гандляроў… Таму, на жаль, у аўторак 10 мая газета ніяк не можа трапіць у вашы рукі, шаноўныя прыхільнікі "Народнай Волі".*

**Рэдакцыя.**

## Беларускі баец «Правага сектара» асуджаны на 5 гадоў узмоцненага рэжыму

Суд Фрунзенскага раёна Мінска прызнаў яго вінаватым у незаконных дзеяннях са зброяй і праводзе праз мяжу выбуховага прыстасавання.

Напярэдадні ў судовых спрэчках пракурор **Аляксандр Міронўчык** прасіў суд пакараць Тараса Аватарава зняволеннем на 5 гадоў без канфіскацыі маёмасці. Адвакат **Крысціна Марчук** прасіла суд апраўдаць Аватарава, бо лічыць, што яго віна ў судзе не была даведзена.

Пасля прысуду Аватараў спрабаваў зрабіць заяву. Ён паспеў толькі сказаць, што супрацоўнікі Следчага камітэта парушалі яго правы, але не скончыў фразу, бо міліцыянты запатрабавалі «ачысціць залу». На пытанне Радыё Свабода, ці будзе ён абскарджваць прысуд, Тарас Аватараў крыкнуў: «Вядома!»

Жыхар Наваполацка Тарас Аватараў быў затрыманы 26 лістапада 2015 года на мінскім чыгуначным вакзале. У Аватарава міліцыянты забралі самаробную гранату, сігнальны пісталет Макарава, бронекамізэльку, пасведчанне добраахвотніка «Правага сектара» з Украіны.

Аватараў на судзе казаў, што здаў выбуховае прыстасаванне міліцыі добраахвотна, а знайшоў гранату на сваіх рэчах у аўтамабілі, якім прыехаў у Гомель з Украіны.

На працэсе Тарас Аватараў неаднаразова называў сябе ваеннапалонным, а віну прызнаваў часткова, толькі ў частцы незаконных дзеянняў з выбуховым прыстасаваннем.

(БелаПАН.)

НЕЗАБЫЎНАЕ

## Родныя дзеці

### Песня ў дарогу

Не раз ужо даводзілася згадваць легендарную 56-ю аўдыторыю на філфаку БДУ, якая тады, у сярэдзіне 1950-х, ператваралася па вечарах у своеасаблівы студэнцкі клуб. Творчыя сустрэчы са знакамітымі беларускімі пісьменнікамі, артыстамі, музыкантамі, вучонымі, а то і гасцямі з іншых краёў вабілі, бы магніт, так што вялікае, на некалькі сот слухачоў, памяшканне ажно трашчала па швах. Само сабой, больш за ўсё мы з сябрамі баяліся прапусціць, калі на сцэну выходзілі нашы, універсітэцкія, паэты – знаёмыя хлопцы з розных факультэтаў, асабліва свае філфакаўцы. Ужо тады спрабавалі свой творчы голас дзёрзкія і вясёлыя Генадзь Бураўкін і Рыгор Барадулін. Ну а старшакурснік, хутка і аспірант Ніл Гілевіч – высокі, зграбны прыгажун з густой хваляй валасоў – хоць і здаваўся сярод маладзейшых "калег" аксакалам, сваёй абаяльнасцю і лірычным натхненнем проста наводзіў паніку ў дзявочых сэрцах.



Ніл Гілевіч побач з Жэняй Янішчыц (1987 г.).

Фота Анатоля КАЛЯДЫ.

А ён… Ён, здавалася, нічога "такога" не бачыў і не заўважаў. Сур'ёзны характарам удаўся, хоць і любіў трапна пажартаваць. Усё больш заседжваўся, да закрыцця, ва ўніверсітэцкай бібліятэцы (яна тады працавала аж да поўначы) ці ў вядомай усяму гораду "ленінцы", а потым, у інтэрнацкім пакоі, працягваў "адпачываць" усё за тым жа заняткам – паглынаннем кніг.

(Заканчэнне на 6-й стар.)

ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ



**Днямі Прага прымала міністраў замежных спраў краін Вышаградскай групы і краін-удзельніц ініцыятывы ЕС "Усходняе партнёрства". Беларускі міністр Уладзімір Макей выказаў свае меркаванні наконт таго, якім Беларусь хоча бачыць "Усходняе партнёрства". Ці зразумелі яго калегі? Час пакажа.**

**На здымку:** *злева першы – У.Макей.*

ЧУЛІ?

## У музеі Ватыкана амерыканская выстава стаіць у чарзе за беларускай

Генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея **Уладзімір Іванавіч Пракапцоў** падпісаў дамову з дырэктарам музея Ватыкана **Антоніа Паалучы** аб экспазіцыі беларускіх ікон XVII–XXI стагоддзяў.

Выставіцца ў музеі Ватыкана не так проста. Экспазіцыя «Іканапіс Беларусі XVII–XXI стагоддзяў" рыхтавалася дзевяць гадоў, і вось стала вядома аб яе адкрыцці 18 мая. Выстава ўключае 33 іконы – праваслаўныя і каталіцкія з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея і з Дома міласэрнасці, якія напісалі сучасныя іканапісцы.

Дарэчы, выстава ЗША ў сценах Ватыкана стаіць у чарзе за беларускімі іконамі.

**Алена МАЛОЧКА.**

ШОУ-БІЗНЕС

## Без ваўкоў і ў адзенні

*На чарговым, 61-м па ліку, конкурсе песні «Еўрабачанне», якое пройдзе ў шведскім Стакгольме, Беларусь прадставіць спявак IVAN.*

Скандалы спадарожнічалі гэтаму выканаўцу ўжо з часу нацыянальнага адбору на "Еўрабачанне". Сёлета арганізатары ўпершыню адмовіліся ад журы. Пераможцаў вызначалі простыя беларусы. Нечакана на першае месца выйшаў малавядомы IVAN. **Аляксандр Слуцкі**, прадзюсар гурта Napoli, які заняў другое месца, абурана заявіў: *"Вельмі здзіўлюся, калі хто-небудзь з вас верыць, што за малавядомага Сашу Іванова* (гэта сапраўднае імя спевака. – **"Народная Воля".**) *беларусы адправілі 23.167 званкоў і СМСак. Такіх лічбаў не было ў адборах, напэўна, ні ў кога. Гэта сапраўды смешна! Гэтак жа, як і тое, што за Napoli на ўласным энтузіязме людзі адправілі 22.399 галасоў. Але запэўніваю вас, што за Napoli гэтыя галасы былі адпраўлены! Мы не куплялі людзей!"* Канкурэнты IVANа сцвярджалі, што прычына перамогі ў асобе прадзюсара. Бо **Віктар Дробыш** карыстаецца аўтарытэтам у дзяржаўнай эліты Беларусі і нават атрымаў ордэн Францыска Скарыны.

Да нацыянальнага адбору на "Еўрабачанне" гамяльчанін Аляксандр Іваноў быў мала вядомы ў Беларусі. Цікава, што вышэйшай адукацыі ён не атрымаў: адвучыўся толькі два курсы ў Лінгвістычным універсітэце. Зрэшты, веданне англійскай мовы яму спатрэбілася. IVAN – адзін з аўтараў англамоўнай версіі да сваёй песні Help you fly.

Каб зрабіць кар'еру, Іваноў кінуў ВНУ і пераехаў у Санкт-Пецярбург. В 2014-м ён перамог на конкурсе "Пяць зорак" у Ялце, а ў наступным годзе заняў другое месца на расійскім тэлешоу "Галоўная сцэна". Пасля апошняга пачалося супрацоўніцтва спевака з Віктарам Дробышам. Менавіта гэты прадзюсар прыдумаў выпусціць спевака на сцэну абсалютна голым ды яшчэ з жывымі ваўкамі.

Заднім чыслом разумееш, што гэта быў геніяльны да цынізму піяр-ход, які падарыў спеваку сотні згадак у прэсе і імгненную пазнавальнасць сярод слухачоў (праўда, цяжка сказаць, станоўчую ці адмоўную). Каманда IVANа ўсяляк эксплуатавала аголенасць героя. Напрыклад, на адным з промавідэа, якое даступнае на афіцыйным YouTube-канале спевака, мастачка малюе яго партрэт. У нейкі момант у выканаўцы злятае набедраная павязка – адзіная дэталь гардэробу.

Магчыма, у якасці піяру была выкарыстана і акалічнасць асабістага жыцця. Бо менавіта падчас падрыхтоўкі да "Еўрабачання" пра адносіны з 21-гадовым Івановым аб'явіла 28-гадовая актрыса **Настасся Самбурская**, якая атрымала вядомасць у серыяле "Универ. Новая общага". Летась яна заняла першае месца ў анлайн-галасаванні за званне самай сексуальнай жанчыны Расіі, якое праводзіў сярод сваіх чытачоў часопіс MAXIM.

Каб вывесці драпежнікаў на сцэну "Еўрабачання", патрабаваўся спецыяльны дазвол арганізатараў. *"Шведы пакуль разводзяць рукамі. Так, Саша будзе на сцэне голы, і так, там будуць ваўкі"*, – упэўнена сцвярджаў Віктар Дробыш. Як высветлілася, ён не падманваў. Проста не гаварыў усёй праўды. У апошні момант высветлілася, што IVAN выйдзе на сцэну, захінуўшыся ў чорны плашч з капюшонам. Падчас выканання яго песні на экране з'явяцца 3D-праекцыі, якія пакажуць… сілуэт аголенага спевака і ваўкоў. Зрэшты, скандал сыграў сваю ролю: пра IVANа загаварылі. Толькі вось на конкурсе гэта наўрад ці дапаможа. Там давядзецца спяваць. Апранутым і без ваўкоў.

Два паўфіналы "Еўрабачання" адбудуцца 10 і 12 мая. IVAN выступіць у другім з іх пад нумарам 5. Такое рашэнне прынялі прадзюсары песеннага конкурсу, якія імкнуцца зрабіць "Еўрабачанне" як мага больш цікавым з пункту гледжання рэжысуры. З 18 краін, якія ўдзельнічаюць у другім паўфінале, 10 трапяць у фінал (ён пройдзе 14 мая). Праўда, букмекеры ставяцца да шанцаў беларуса скептычна. Напрыклад, букмекерская кантора William Hill выставіла дастаткова высокія каэфіцыенты на выхад спевака з кваліфікацыі. IVAN дзеліць 14–16-е месцы разам з прадстаўнікамі Албаніі і Грузіі (больш высокія каэфіцыенты толькі ў Славеніі і Швецарыі).

Зрэшты, перад пачаткам апошняга чэмпіянату Англіі па футболе верагоднасць перамогі клуба "Лестэр" ацэньвалася каэфіцыентам 5001 (калі паставіць 20 фунтаў стэрлінгаў, можна было атрымаць 100 тысяч). А "Лестэр" упершыню ў гісторыі стаў чэмпіёнам.

Ці магчымы такія цуды з IVANам, мы даведаемся ўжо хутка. Жывую трансляцыю двух паўфіналаў і фіналу "Еўрабачання" можна будзе ўбачыць на каналах "Беларусь 1" і "Беларусь 24".

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**



ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Лябедзьку зноў судзяць…

*Сёння, 6 мая, у судзе Заводскага раёна Мінска будзе разглядацца адміністрацыйная справа старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі і сябраў партыі Вольгі Маёравай і Дзяніса Красачкі.*

*Пратаколы на палітычных актывістаў былі складзены завочна, ніхто з фігурантаў справы іх не бачыў, але з'явіліся яны пасля таго, як апазіцыя "выйшла ў народ".*

*Лябедзька, Маёрава і Красачка раздавалі інфармацыйныя матэрыялы Аб'яднанай грамадзянскай партыі ля прахадной МАЗа.*



– Апошнім часам беларускія суды працуюць, нібы канвеер Трактарнага завода, – гаворыць лідар АГП **Анатоль Лябедзька**. – З вялікай хуткасцю "штампуюцца" справы і выносяцца карныя рашэнні ў дачыненні да актывістаў апазіцыі, да тых, хто не згодны з сітуацыяй у Беларусі.

Але пасля 6 мая, калі будуць разгледжаны нашы справы, у Беларусі можа быць створаны небяспечны прэцэдэнт: дэ-факта можа быць уведзена забарона і пакаранне за распаўсюджванне друкаванай інфармацыйнай прадукцыі.

Я ўпэўнены, што каманда на цкаванне актывістаў АГП паступіла зверху. Бо падчас раздачы гэтых матэрыялаў мы таксама давалі людзям бюлетэнь, у якім утрымліваўся аналіз гаротнага эканамічнага стану Беларусі і патрабаванне адстаўкі ўрада, а таксама кіраўніка дзяржавы. Падстава для адстаўкі – тупіковая эканамічная палітыка. Тут жа кожны ахвочы мог за гэта падпісацца

**– Наколькі я ведаю, вы не бачылі пратаколаў, якія складзены на вас і партыйных актывістаў. Адкуль упэўненасць, што судзіць будуць менавіта за распаўсюджванне друкаваных матэрыялаў?**

– Так, пратаколы супраць нас былі складзены завочна, але тое, што судзіць будуць менавіта за распаўсюджванне ўлётак, у мяне сумневаў няма. Хаця гэта можа быць абстаўлена як удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве ці яшчэ неяк.

Бо акрамя названай мной справы ўлады "рэанімiравалі" яшчэ адну падобную – за раздачу ўлётак у мінскім гандлёвым цэнтры "Сілуэт". Гэта можа сведчыць пра тое, што ўлады хочуць перастрахавацца. Ні для кога не сакрэт, што эканамічнае становішча ў Беларусі, мякка кажучы, не вельмі добрае. Не выключана чарговая дэвальвацыя, таму і распаўсюджванне любой нязручнай для ўлады праўдзівай інфармацыі, аддрукаванай на звычайным папяровым аркушы, пасля 6 мая будзе карацца штрафам. Улады бачаць у гэтым небяспеку.

**– На што вы спадзяецеся ў судзе?**

– Практыка паказвае, што наўрад ці нас апраўдаюць. Таму напярэдадні судовага пасяджэння мы разаслалі лісты ў многія замежныя амбасады, якія працуюць у Беларусі. Мы запрашаем дыпламатаў прыйсці і на ўласныя вочы пабачыць, што такое "лібералізацыя па-беларуску". Зараз улады развешваюць локшыну на вушы еўрапейцам, гаворачы пра нейкія паляпшэнні ў выбарчым заканадаўстве, а насамрэч фактычна паралізуюць магчымасць камунікацыі апанентаў улады з выбаршчыкамі. Мы кажам еўрапейскім партнёрам: хопіць рабіць выгляд, што нічога не адбываецца, давайце называць рэчы сваімі імёнамі. Маўчанне – гэта кансервацыя старых і заахвочванне новых рэпрэсій у дачыненні да прыхільнікаў перамен.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

НОВЫЯ ІМЁНЫ

## Мікіта РОГАЎ: «Я не разгубіўся»

*Школьнік з Крупак стаў фіналістам алімпіяды па гісторыі авіяцыі і паветраплавання ў Маскве. Ён быў адзіным беларусам, які прыехаў у Белакаменную.*

Навучэнец Крупскай гімназіі Мікіта Рогаў даўно захапляецца авіяцыяй.

Праца Мікіты была прысвечана гісторыі стварэння ракеты беларускім ваенным інжынерам Казімірам Семяновічам. Паводле вынікаў алімпіяды беларускі вундэркінд атрымаў прыз у намінацыі «Пошук і вывучэнне белых плям у гісторыі аэракасмічнай тэхнікі». Ва ўрачыстай абстаноўцы яму ўручылі сертыфікат пераможцы першага тура, авіямадэль, кнігу «Эксперыментальныя самалёты Расіі 1912–1941».

**Аліна ВЕТРАВА.**

ФОТАФАКТ

**Вось так выглядалі Баранавічы пазаўчора пасля нечаканага градападу. Ільдзінкі дасягалі 5–7 міліметраў у дыяметры.**



ВІНШУЕМ!

## Трымайцеся, Іван Аляксандравіч!

У "Народнай Волі" шмат прыхільнікаў. Сярод іх – Іван Аляксандравіч Сачук, які жыве ў Мазыры. Доўгі час ён працаваў у педагагічным інстытуце. Кандыдат гістарычных навук.

Нялёгкім выдалася жыццё. Падчас вайны была спалена дашчэнту разам з жыхарамі родная вёска Буда Казіміраўская. У тым пякельным агні згарэлі маці і сястрычкі Івана Аляксандравіча. Калі б у той трагічны дзень ён не знаходзіўся ў сваёй бабулі Марты Прахарэнка, якая жыла ў вёсцы Раманаўцы, то, не выключана, і яго мог напаткаць жудасны лёс родных і блізкіх людзей.



У надзвычай цяжкі час станавіўся на ногі І.Сачук. І хто ведае, што адбылося б, калі б побач не была бабуля Марта. З вялікай удзячнасцю ўзгадвае яе Іван Аляксандравіч у сваіх кнігах "Цяплом душэўным падзялюся" і "Крыніца бабулі Марты".

Учора І.А.Сачук адсвяткаваў свой 81-ы дзень народзінаў. "Народная Воля" далучаецца да тых узнёслых слоў, якія ён чуў і чуе ад родных, сяброў, былых саслужыўцаў, землякоў.

Трымайцеся, Іван Аляксандравіч! Перш-наперш няхай не падводзіць здароўе. Няхай Божанька захінае Вас спакоем і цяплом, а ў Вашай душы струменіць і ніколі не перасыхае крыніца любай бабулі Марты.

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**

## Засталося ўсяго два героі Савецкага Саюза

*Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны мінула больш за 70 гадоў. Яшчэ з часоў дзяцінства памятаю парады, у якіх бралі ўдзел тысячы нашых вызваліцеляў... А колькі ў Беларусі засталося ветэранаў той страшэннай вайны? Ці ёсць сярод іх Героі Савецкага Саюза?*

**Святлана ГАЛУШКА, Мінск.**

На жаль, колькасць удзельнікаў Другой сусветнай вайны ўсё змяншаецца. Бо сярэдні ўзрост ветэранаў набліжаецца да 90 гадоў. На пачатак мая ў Беларусі засталося каля 13,7 тысячы ветэранаў. Дарэчы, сярод іх усяго два Героі Савецкага Саюза

92-гадовы **Іван Ільіч Кустоў** нарадзіўся ў 1924 годзе. Зорку Героя атрымаў зімой 1945 года. Яго рота прарвала нямецкую абарону ў раёне польскага Магнушава, па лёдзе пераправілася праз раку і захапіла плацдарм, які ўтрымлівала да падыходу сваіх.

99-гадовы **Васіль Сяргеевіч Мічурын** нарадзіўся ў ліпені 1916 года. Зорку Героя атрымаў яшчэ за ўдзел у савецка-фінскай вайне, якая папярэднічала Вялікай Айчыннай. Узвод, у якім служыў Мічурын, адбіў усе фінскія атакі, хоць з 15 чалавек у жывых засталіся толькі двое.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

ВЕРСІЯ

# Мой погляд

Добры дзень!

Хачу выказаць падзяку за добрую ініцыятыву "Народнай Волі" – публікацыю "150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі"!

Адначасова хачу папрасіць рэдакцыю пры перадрукоўцы главы, якая распавядае пра Тадэвуша Рэйтана, прыбраць радкі пра ягонае самагубства. Займаючыся вывучэннем жыцця гэтага героя і гісторыі ягонага роду, на падставе дадзеных навуковых крыніц я прыйшоў да цвёрдай перакананасці, што ён не пазбаўляў сябе жыцця. Міф пра самагубства Рэйтана ў наш час стварае перашкоду на шляху ўшанавання яго памяці. Таму прапаную іншую версію гэтага артыкула.

Таксама я прапаную ўнесці змены ў гады жыцця Тадэвуша Рэйтана: нарадзіўся ён не ў жніўні 1742-га, як раней лічылася, а, паводле маіх даследаванняў, у кастрычніку 1740 года.

**З павагай –**

**Зміцер ЮРКЕВІЧ.**

АД РЭДАКЦЫІ

Рэдакцыя не ўмешваецца ў дыскусіі гісторыкаў. Наша справа – інфармаваць пра розныя версіі і высновы. Што мы ахвотна і робім: публікуем у раздзеле "Пошта" матэрыял Зміцера Юркевіча, а ў наступным нумары чытачы змогуць пазнаёміцца з версіяй, выкладзенай у артыкуле пра Тадэвуша Рэйтана Уладзімірам Емяльянчыкам.

## Хто такі Тадэвуш Рэйтан?

У жніўні 1772 года манархі трох суседніх дзяржаў – Расіі, Прусіі і Аўстрыі, скарыстаўшыся заняпадам і ўнутранымі міжусобіцамі, што скаланалі Рэч Паспалітую Абодвух Народаў, дамовіліся паміж сабою аб першым падзеле яе тэрыторыі. 18 верасня таго ж года яны давялі да ведама ўлад Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага, што факт падзелу адбыўся. Да Расійскай імперыі далучаліся ўсходнія беларускія землі з Полацкам, Віцебскам і Магілёвам. Акупанты запатрабавалі склікання надзвычайнага Сойму, каб фармальна пацвердзіць «законнасць» сваіх захопаў, заснаваных нібыта «на гісторыі і праве».



19 красавіка 1773 года ў Варшаве распачаў працу вальны Сойм Рэчы Паспалітай, які пазней атрымаў назоў «падзельнага». Краіны-захопніцы разлічвалі не толькі на сваю вайсковую сілу і слабасць Рэчы Паспалітай. Выкарыстоўваючы пагрозы, шантаж і подкуп, яны дамагліся перавагі на Сойме згодніцка-прадажнай большасці на чале з кухмістрам польскім А.Панінскім.

Быў распрацаваны і адпаведны сцэнарый Сойма: перад яго пачаткам з ліку здраднікаў утваралася «канфедэрацыя» (гэтак даўней называўся часовы вайскова-палітычны хаўрус шляхты), што рабіла немагчымым ужыванне пасламі (г.зн. дэпутатамі) права «ліберум вета», каб заблакаваць прыняцце ўмоў захопнікаў. Маршалкам канфедэрацыі і Сойма павінен быў стаць Панінскі, марыянетка расійскага пасольства.

Але ўсе гэтыя планы нечакана былі парушаны супрацівам беларускіх паслоў на чале з Тадэвушам Рэйтанам, шляхціцам з-пад Ляхавічаў, паслом ад Навагрудскага ваяводства. Тры дні ён разам з Самулём Корсакам і Станіславам Багушэвічам не дазвалялі Панінскаму ўзначаліць Сойм. Гэты пратэст вонкава насіў фармальны характар. Бо, па-першае, Сойм паводле чаргі павінен быў праводзіцца ў Горадні, а не ў Варшаве, а маршалкам яго мусіў быць ліцвін, а не паляк. А па-другое, Сойм склікаўся не як канфедэрацкі, а як звычайны, і распачынаць яго пад знакам канфедэрацыі было незаконна. Для нашых паслоў гэта была толькі зачэпка, каб сарваць Сойм і не дапусціць ганебнага зацвярджэння падзелу.

Спачатку Рэйтана ўгаворвалі, каб саступіў. Потым, калі не атрымалася, хацелі, як і іншых, падкупіць грашыма. Урэшце канфедэрацкі суд прыняў пастанову пазбавіць яго «маёмасці і гонару» і выгнаць з краіны. Але ўсё было марна: Тадэвуш Рэйтан заставаўся непахісным у сваіх перакананнях. Падчас правядзення Сойма быў і такі драматычны момант, калі Рэйтан у адчаі, каб не даць магчымасці па-згодніцку настроеным паслам пакінуць залу пасяджэнняў, лёг крыжам ля дзвярэй і закрычаў: «Забіце мяне, затапчыце, але не забівайце Бацькаўшчыны!»

Гераічны супраціў Рэйтана не ўратаваў нашу краіну ад захопу. Пакінуты і знявераны, ён цяжка захварэў. Памёр у сваім маёнтку Грушаўка 8 жніўня 1780 года ва ўзросце 39 гадоў.

Легендарны чын Тадэвуша Рэйтана ўвайшоў у нашу гісторыю як прыклад высокага патрыятызму і самаахвярнасці. Яго імя – гэта сімвал мужнасці і няскоранасці для ўсіх, хто не гандлюе святынямі, не прадае самага дарагога – Айчыны. І ў наш час заклік Рэйтана «Не забівайце Бацькаўшчыны!», на жаль, цалкам актуальны.

ПО ПОВОДУ

## Пиджак, на котором блестят ордена…



Тех, кто свернул шею фашистскому зверю, с каждым годом остается все меньше и меньше. Вот и моего отца, к сожалению, уже нет в живых, но как частица памяти висит его любимый старенький пиджак, на котором блестят ордена Красной Звезды и Отечественной войны, медали «За оборону Москвы», «За боевые заслуги», «За взятие Кёнигсберга», «За Победу над Германией», «За 30 лет безупречной службы» и юбилейные…

Этот любимый пиджак с орденами и медалями, который он надевал лишь в День Победы, сейчас напоминает нашим детям, внукам и правнукам, что их дед был солдатом той войны.

Поверьте, даже когда ему было уже за восемьдесят, он оставался молод душой, хотя жизнь безжалостно ломала и трепала этого доброго человека.

Война застала его в Бобруйске, 23 июля 1941 года его призвали в армию. Отступали к Москве, там он принял боевое крещение. Вообще, о войне отец не любил говорить.

Правда, иногда рассказывал, как в одном из боев под Москвой его сильно контузило и присыпало землей в траншее и что его спасла медицинская сестра, которую звали Галя. Вместе с другой медицинской сестрой она доставила отца в медсанбат, где его несколько месяцев лечили.

Иногда со слезами на глазах рассказывал, как немецкий офицер застрелил его сослуживца, а он заколол того штыком.

*«Война – это страшная мясорубка, в которой человек убивает человека…* – часто повторял отец. – *Это не должно повториться».*

Хочу сказать всем здравствующим солдатам той войны: живите долго! Мы помним, как много мы должны вам и как мало можем вернуть! Поздравляю всех оставшихся в живых с Днем Победы! За праздничным столом выпьем по «сто граммов наркомовских»!..

**С уважением –**

**Юрий СЕДОЙ, капитан в отставке.**

РЭХА

# Вось ён, сапраўдны Кебіч!



Той самы здымак фотакарэспандэнта Сяргея Грыца, які выклікаў рогат людзей.

Public domain

Прачытаў у "Народнай Волі" за 3 мая артыкул дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання Лявона Баршчэўскага пад назвай "Пра ўсёпераможную любоў Вячаслава Кебіча". Прачытаў і падумаў: цяпер можна не сумнявацца ў двулікасці былога прэм'ера. Не, не дзеля выратавання нашага суверэнітэту ён некалі заклікаў хутчэй падпісаць з Расіяй пагадненне аб адзінай валюце. Не нацыянальнымі інтарэсамі Беларусі кіраваўся спадар Кебіч, калі фактычна спрабаваў сарваць візіт у Мінск прэзідэнта ЗША Біла Клінтана. А помніце, як адбіваў ён паклоны перад крамлёўскімі імперцамі! Удосталь нарагаталіся людзі, убачыўшы здымак, на якім Францавіч "узасос" цалуецца з тагачасным кіраўніком расійскага ўрада Чарнамырдзіным…

Я згодны з Л.Баршчэўскім, які напісаў, што цяпер, калі В.Кебіч ужо даўно па-за актыўнай палітыкай, нішто не замінае яму аддацца сваім шчырым пачуццям. І яны, шчырыя пачуцці, спаўна выкрылі яго сапраўдны твар. Яго душу, бачыце, цешыць існаванне ў Беларусі музея А.Суворава і вайсковага вучылішча, названага ў яго гонар. Які ж ты патрыёт Беларусі, калі схіляеш галаву перад тым, хто праліў нямала крыві нашых продкаў? І чаму такая адмоўная рэакцыя на тое, што ў Віцебску з'явіўся помнік князю Альгерду, які многімі геранічнымі ўчынкамі заслужыў добрую памяць?

На мой погляд, кніга пенсіянера-палітыка В.Кебіча "Ці любім мы Расію?" з'явілася невыпадкова. Я не сцвярджаю на сто працэнтаў, але падазраю, што напісана яна па падказцы з Масквы. А калі не па падказцы, то з разлікам аўтара на тое, што яго хваласпевы ў бок Крамля будуць адпаведным чынам ацэнены. І, вядома ж, з карысцю для аўтара.

Я і раней насцярожана ставіўся да той пазіцыі, якую займаў спадар Кебіч. А цяпер, пасля таго як ён выступіў ледзь не ў ролі адваката Расіі, якая пралівае кроў у суседняй Украіне, якая ў канфлікце, можна сказаць, з усім цывілізаваным светам, я канчаткова разуверыўся ў гэтай адыёзнай асобе. Што ні кажыце, а добра, што ў 1994 годзе не абралі яго прэзідэнтам. Ён даўно здаў бы Беларусь расійскім імперцам.

**Анатоль ГУРСКІ.**

*Мінск.*

ИЗ ПИСЬМА

# Так за что же вы, Овсейчик, ратуете?

В «Народной Воле» за 5 апреля прочитал письмо жителя Гродно Дмитрия Овсейчика. Убедительный, аргументированный ответ дал ему многоуважаемый Валерий Карбалевич. Но и я хочу кое-что сказать.

Вы, товарищ Овсейчик, не только унизили достоинство Беларуси, но и оскорбили нашу соседку Украину, назвав Киев бандеровским (кстати, Степан Бандера, как известно, никого не убивал в годы войны, тем более в Беларуси – он сидел в тюрьме и был против фашизма).

В начале февраля я был в Киеве в гостях у родственников и у своего друга. Они не богачи, не бандеровцы, а простые коренные украинцы. Так вот, ни от них, ни от других киевлян и украинцев ни разу не услышал ни одного положительного отзыва в адрес России. И особенно в адрес Путина. Никто не поддерживает развязанную им войну в Донбассе, наглый захват Крыма.

Милитаристскую политику Путина на Кавказе, в Украине не поддержал и наш президент, как не поддержала ни одна страна в мире.

Так за что же вы, Овсейчик, ратуете, живя в свободной Беларуси? Да, есть у нас проблемы, есть экономические и политические трудности, но это наша страна, это наша земля. И мы, белорусы, будем вместе улучшать нашу жизнь, но без так называемого «собирателя славянских земель».

## Пенсионное законодательство нужно пересмотреть полностью

Вот и свершилось: пенсионный возраст увеличили на три года. Для всех. А потому как была разница между силовиками и всеми остальными, так она и осталась. Раньше сотрудник милиции мог выйти на пенсию в 45 лет, теперь сможет пойти на отдых в 48. А почему не в 55? Да во многих странах им назначают пенсию даже в 60.

Что, наше государство богаче других? Нет. Что, наши военные каждый день нюхают порох? Слава Богу, мы ни с кем не воюем.

Говорят о создании 50 тысяч новых рабочих мест. Да и 100 тысяч будет мало. Те же силовики, сняв погоны, тут же займут теплые места в охране банков, супермаркетов, станут частными детективами. И будут получать пенсию плюс высокую зарплату. А обычный гражданин уйдет на пенсию в 63 года с пособием в пределах трех миллионов белорусских рублей при стаже работы более 40 лет. Устроиться на работу по-новому ему будет сложно в связи с солидным возрастом. А если и устроится, то будет получать не полную пенсию, а с вычетом, кажется, 15 процентов. И это справедливо?

Конечно, как и в любой отрасли, в силовых структурах есть вредная и опасная служба. Так почему в указе не очерчена градация: кто-то может уйти на пенсию в 48 лет, а кто-то, проработав все время в обычных условиях, уйдет на пенсию в 60 лет. Наши военные не служат на Крайнем Севере, в таежной глуши, не находятся в дальних многомесячных плаваниях. Все служат практически в родных местах. Так почему они должны уходить на пенсию в 48 лет при стаже 20 лет?

Я считаю, что пенсионное законодательство нужно пересматривать коренным образом. В нем столько нестыковок, что о какой-то справедливости и говорить не приходится.

**Эдуард ЛАПЫШ, житель г.Бобруйска.**

ГАЗЕТА–ЧИТАТЕЛИ

# Нужна не просто информация, а глубокий взгляд на жизнь




Уважаемая редакция!

Примите искреннюю благодарность постоянной читательницы газеты за насыщенность газеты разнообразными материалами, за их актуальность, за честность позиции авторов. Обязательно откликнусь на призыв по увеличению тиража издания.

В одном из номеров «Народной Воли» прозвучал призыв сообщить, какие еще темы могут быть освещены на ее страницах. Хочу откликнуться, предлагая конкретные сюжеты.

Да, есть интернет, из него можно узнавать новости. А мне хочется еще знакомиться с оценками тех или иных событий. И тут газета незаменима.

Вот, скажем, в Минске как будто закрывается магазин «Лакомка». Это не простая торговая точка, а, как ее называют в том же интернете, культовая. И это действительно так. «Лакомка» существует с 1952 года, живая история города, связанная с жизнью нескольких поколений, и не только минчан. Люди, не имея точной информации, не знают, как действовать, чтобы сохранить этот знаковый магазин. Пусть прояснит ситуацию «Народная Воля».

Я лично вижу проблему в том, что «Лакомка» находится в самом центре Минска, где самые высокие цены на аренду помещений. Не исключено, кто-то смотрит на «Лакомку» как на лакомый кусочек. Вспомним замечательную публикацию в «Народной Воле» Светланы Калинкиной о выселении Союза композиторов во главе с прославленным Игорем Лученком с площади Свободы. Возможно, тут похожая ситуация. В таком случае возникает резонный вопрос: до каких пор чиновники горисполкома будут действовать, не считаясь с мнением горожан, а также вопреки интересам государства?

Кстати, в магазине «Лакомка» если не половина, то около трети площадей отведено для продукции кондитерской фабрики «Коммунарка». Посещая ее А.Лукашенко сказал, что теперь она имеет хорошую прибыль. Так почему надо закрывать магазин, через который реализуется немалая часть продукции успешного предприятия?

Вообще, по «Коммунарке» у меня отдельный вопрос, и это еще одно предложение аналитикам «Народной Воли». Я как среднестатистический житель Минска не совсем понял, какие меры были приняты после того, как предприятие стало государственным. Предыдущему владельцу ставилось в вину то, что он закупал какао-бобы по завышенным ценам через другую свою торговую фирму, а это, естественно, сильно удорожало продукцию. А как сейчас? Если теперь на «Коммунарке» все так хорошо, то не может ли ее опыт стать примером для других предприятий?

Еще одну тему хочу предложить «Народной Воле». Уже из области медицины. Известно, политика государства направлена на то, чтобы импортные медикаменты заменять по мере возможности продукцией отечественного изготовления. Мол, нужно экономить валюту. Но всегда ли такой подход оправдан? Я бы хотела, чтобы в газете появились аналитические публикации на эту тему.

Рада буду если на страницах «Народной Воли» станут чаще появляться содержательные статьи по вопросам культуры. Побольше проводите «круглых столов» по обсуждению тех или иных сторон духовной жизни.

Уверена, что тираж и популярность газеты выиграют, если «Народная Воля» глубже взглянет на нашу многогранную жизнь.

**Л.КУЛЕШОВА.**

*Минск.*

НЕСТАНДАРТ

# Праменьчык надзеі

Раней у гэтым доме быў райкам партыі, а цяпер яго насяляюць розныя ўстановы. На першым паверсе ў двух вялікіх светлых пакоях, дзе некалі была зала пасяджэнняў і бібліятэка, месціцца аддзяленне дзённага знаходжання маладых інвалідаў, якое назвалі "Праменьчык". Праменьчык надзеі на людскую спагаду, міласэрнасць, сяброўства, а таксама разуменне, што жыццё, якім бы цяжкім яно ні было, адзінае, непаўторнае і ім трэба даражыць.

Гэта аддзяленне стварылі ў 2009 годзе. Так бы мовіць, ля вытокаў стаялі Таццяна Сямёнаўна Нікіпорчык і Аксана Міхайлаўна Буцько.

– Яны заклалі трывалую аснову для нашай работы, – кажа цяперашняя загадчыца Валянціна Расціслаўна Саламевіч.

– Скажыце, калі ласка, колькі хлопцаў і дзяўчат наведваюць аддзяленне?

– Дваццаць адзін чалавек. Гэта жыхары не толькі Дзятлава, але і многіх іншых населеных пунктаў. Напрыклад, да нас прыязджаюць з пасёлкаў Наваельня, Гезгалы, з вёскі Зачэпічы. Усе хлопцы і дзяўчаты інваліды першай і другой груп.

– А як дабіраюцца?

– Па-рознаму. У большасці выпадкаў на аўтобусах, а некаторых на ўласных аўтамашынах прывозяць бацькі. Трэба сказаць, што ўсе маладыя людзі ахвотна прыязджаюць сюды. Перш за ўсё яны адчуваюць сябе роўнымі сярод роўных. Калі дома вымушаны былі сядзець у адзіноце, то тут пастаянна сярод сяброў, якія паспагадаюць, дапамогуць, раздзеляць радасць. Так, у нас бывае нямала радасці. Напрыклад, разам святкуем дні нараджэння, розныя святы, ладзім канцэрты, сустрэчы з цікавымі людзьмі.

Валянціна Расціславаўна расказала, што мэта аддзялення дзённага знаходжання маладых інвалідаў – сацыяльная і працоўная рэабілітацыя. Хлопцы і дзяўчаты ва ўзросце ад 18 да 31 года шыюць, аваладваюць камп'ютарам, вяжуць шалікі, пакаёвыя тапкі, займаюцца пляценнем. Кожны знаходзіць занятак па душы, развівае свае здольнасці і майстэрства.

На рахунку наведвальнікаў шмат творчых здабыткаў. Яны пастаянна ўдзельнічаюць у "Славянскім базары" ў Віцебску. Іна Юганава, Саша Калодка, Таня Уласевіч, Каця Васільева, Віталік Крэйдзіч парадавалі гасцей гэтага музычнага фестывалю сваімі песнямі, а Юля Шах вазіла туды на выставу свае карціны.

Удзельнічаў у "Славянскім базары" і Алег Бяляк. Ён піша вершы, якія пакладзены на музыку, і выконвае песні. Ніколі хлопцы і дзяўчаты не прыязджалі з гэтага мерапрыемства без узнагарод.

– Удзельнічаем і ў абласным фестывалі пад назвай "Калі мы разам – мы мацнейшыя", – кажа Валянціна Саламевіч. – Летась, напрыклад, ён праводзіўся ў вёсцы Васілішкі Шчучынскага раёна. Многія нашы хлопцы і дзяўчаты былі ўзнагароджаны дыпломамі.

Жыццё маладых інвалідаў насычана рознымі цікавымі мерапрыемствамі. Яны наведваюць святыя мясціны Беларусі. Шмат разоў пабывалі ў Жыровіцкім манастыры, а таксама ў Лаўрышаўскім, што ў Навагрудскім раёне, у Хмелеве, што на Брэстчыне. Гутараць са святарамі, з насельнікамі манастыроў, вучацца цярплівасці.

Кожнае лета хлопцы і дзяўчаты на два дні ездзяць на маляўнічы бераг ракі Шчары, а таксама на возера Свіцязь. Там яны купаюцца, загараюць, гуляюць у розныя гульні. Атрымліваюць вялікі зарад бадзёрасці і добры настрой на доўгі час.

Два разы на тыдзень у аддзяленне прыходзіць валанцёр – вельмі добры і спагадлівы чалавек Марына Генадзьеўна Шэлег. Яна разам з мужам Аляксандрам Леанідавічам утрымліваюць у Дзятлаве дом сямейнага тыпу, у якім ласкай і любоўю сагрэты абяздоленыя дзеткі. Для маладых інвалідаў Марына Генадзьеўна праводзіць заняткі ў гуртку пад назвай "Пчолка". Прыносіць свой матэрыял і вучыць складаць прыгожую мазаіку, рабіць розныя вырабы.

Ужо сталі традыцыйнымі запрашэнні ад Марыны Генадзьеўны і Аляксандра Леанідавіча на рэлігійныя святы, напрыклад, на Вялікдзень. У гэтай вялікай і дружнай сям'і, дзе кожны адчувае сябе любімым і патрэбным, хлопцы і дзяўчаты вельмі жаданыя госці. А яшчэ ў аддзяленні кажуць, што Марына Генадзьеўна пастаянна прыходзіць сюды на дні нараджэння, прыносіць салодкія падарункі і шчырыя пажаданні здароўя, мужнасці і цярпення. І наогул, гэтай цудоўнай жанчыне можна патэлефанаваць у любы дзень, у любы час. І як бы ні была занята са сваёй вялікай сям'ёй, заўсёды пагутарыць, падтрымае, а калі трэба, то і дапаможа. Менавіта дзякуючы Марыне Генадзьеўне ў аддзяленне не раз прыязджалі яе сябры з Амерыкі і прывозілі маладым людзям розныя падарункі.

Тут часты госць і дзятлаўскі бацюшка Мікалай Пінчук, а таксама спагадлівыя жанчыны з сястрынства. Бацюшка прычашчае хлопцаў і дзяўчат, праводзіць гутаркі, прыносіць падарункі.

Наведваюцца ў аддзяленне і валанцёры з мясцовай гімназіі.

На маё пытанне, як складваецца далейшы лёс маладых інвалідаў, ці знаходзяць яны потым сваё месца ў жыцці, Валянціна Расціславаўна адказала:

– Да нас хадзіў адзін хлопец, імя якога па пэўных прычынах назваць не магу. Ён вельмі дапытлівы, мэтанакіраваны. Дабіўся, каб з другой групы інваліднасці перавялі на трэцюю і ўладкаваўся на работу. А яшчэ Віталік Крэйдзіч закончыў каледж і цэлы год будзе праходзіць у нас працоўную адаптацыю. Магчыма, што потым таксама будзе стала працаваць. Аб гэтым марыць і сам, і яго мама Святлана Пятроўна, якая аказвае нашаму аддзяленню ўсякую дапамогу і падтрымку. Мы за гэта ёй шчыра ўдзячны.

Акрамя загадчыцы Валянціны Расціславаўны Саламевіч у аддзяленні працуе Алена Пятроўна Калюцік, якая кіруе работай гуртка. Гэтыя слаўныя жанчыны робяць вельмі важную справу – дапамагаюць жыць тым, каму асабліва цяжка. Дзякуй ім!

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**



Злева направа: Валянціна Расціславаўна Саламевіч, Алена Пятроўна Калюцік і Святлана Пятроўна Крэйдзіч.

Фота аўтара.



ГДЕ ЭТО ВИДАНО…

## Рим и Милан будут патрулировать китайские полицейские

Четыре офицера китайской полиции будут патрулировать Рим и Милан, чтобы туристы из Китая чувствовали себя в безопасности.

Перед отправкой в Европу полицейские прошли курс обучения в Пекине, организованный итальянскими чиновниками. Они говорят по-итальянски, но патрулировать города будут в форме китайской полиции, чтобы туристы из родной страны их узнавали.

«Эта мера была разработана с учетом интересов китайских туристов, и если она будет работать, то мы можем испробовать и другие формы сотрудничества», – сказал министр внутренних дел Италии **Анджелино Анфаро,** объявляя о нововведении. В частности, добавил он, подобные патрули могут появиться и в других городах Италии.

Ежегодно в Италию приезжают около трех миллионов туристов из Китая.

ПРОГНОЗЫ

## Ближний Восток может стать непригодным для обитания

Ученые обнаружили, что из-за изменения климата Ближний Восток, где сейчас проживает более 500 миллионов человек, может скоро стать слишком жарким для обитания человека.

Исследователи из Института химии имени Макса Планка и Кипрского института подсчитали, что число «очень жарких» дней в регионе с 1970 года «увеличилось вдвое».

«В будущем климат значительной части Ближнего Востока и Северной Африки может измениться таким образом, что само существование их обитателей окажется под угрозой», – говорит директор Института имени Макса Планка и профессор Кипрского института **Йос Леливельд.**

Это означает, что к середине столетия в самое жаркое время лета «температура не будет опускаться ниже 30 градусов ночью, а днем будет подниматься до 46 градусов Цельсия».

В дальнейшем дневная температура в регионе может достигнуть 50 градусов Цельсия, а число периодов аномальной жары может увеличиться в десять раз. К тому же увеличится и их продолжительность – к середине столетия средний показатель может достигнуть 80 дней, тогда как сейчас он составляет 16 дней.

ПРОТЕСТ

## Венесуэла: оппозиция требует отставки президента Мадуро



Венесуэльской оппозиции удалось собрать 1,8 млн подписей избирателей под петицией с требованием проведения референдума по вопросу об отстранении президента Мадуро от власти.

Согласно конституции страны, теперь оппозиции придется собрать почти 4 млн подписей под второй петицией, необходимой для проведения референдума.

Оппозиция винит президента Николаса Мадуро и его предшественника Уго Чавеса в кризисе экономики и дефиците основных продуктов питания.

Президентский срок Николаса Мадуро заканчивается в 2019 году.

АСОБА



Багдан АНДРУСІШЫН:

# «Апошнія чвэрць стагоддзя адной нагой жыву ў Еўропе, другой – у Амерыцы»

*Чым Данчыка расчаравала прафесія адваката?*
*Як працяглы адпачынак дапамог яму пераехаць у Еўропу?*
*Чаму ён не пабаяўся сесці на «Тытанік»?*
*На гэтыя і іншыя пытанні «Народнай Волі» адказаў кумір цэлага пакалення, беларускі спявак амерыканскага паходжання Данчык (сапраўднае імя Багдан Андрусішын), які ўпершыню прыехаў у Беларусь з канцэртамі ў далёкім 1989 годзе.*
*Даваць гэтае інтэрв'ю Данчык не асабліва хацеў.*

– На інтэрв'ю я іду са страхам, – *прызнаўся вядомы ў свой час выканаўца.* – Я не разумею, што яшчэ магу сказаць з таго, што невядома астатнім. Нават калі я быў спеваком, не любіў гутарыць з прэсай. Для мяне галоўнае – спевы, а не што я думаю пра іх. Раскажу вам у тэму такую гісторыю. Калі вялікай шведскай актрысе Грэце Гарба было каля 40 гадоў, яна перастала іграць. Але па Нью-Ёрку за ёй усё роўна хадзіў натоўп. Гарба нікому не давала інтэрв'ю. Калі б яна згаджалася на ўсе прапановы, яе слава заціхла б. Натуральна, я не параўноўваю сябе з Гарба *(смяецца).* Але павінна застацца нейкая таямніца.

**– Думаю, вашы прыхільнікі дагэтуль не могуць зразумець: чаму вы з такім голасам не сталі прафесійным спеваком?**

– Пасля ўніверсітэта я вучыўся ў прыватнай акцёрскай школе. Аднойчы да нас прыйшла знакамітая актрыса Джэйн Фонда, уладальніца двух "Оскараў". Запомніў яе фразу: "Калі вы не прачынаецеся і не ідзяце спаць з думкай, як стаць зоркай, кідайце гэтую прафесію". Фонда была дачкой Генры Фонда, вялікага галівудскага акцёра, таксама ўладальніка "Оскара". Яна казала, што мела тое, чаго не маюць іншыя (знаёмствы з прадзюсарамі, рэжысёрамі). Але нават ёй было вельмі цяжка прабіцца.

Тое самае з музыкай. Я вельмі люблю спяваць, але для самога сябе. Мне не было патрэбна прызнанне. З іншага боку, я думаў: калі маеш Божы дар, трэба ім дзяліцца. Таму я даваў канцэрты. Але зрабіць спевы прафесіяй я не адважыўся. У шоу-бізнесе выбіваюцца адзінкі. У мяне не было прагі да сцэны. Я занадта практычны і патрабавальны да самога сябе. Ведаў, што мушу мець нейкую прафесію, з якой буду зарабляць сабе на хлеб.

**– Па адукацыі вы…**

– Журналіст. Калі мне было 20 гадоў, трэба было вызначацца з будучай прафесіяй. Цяпер вельмі модна браць адзін год паўзы, каб падумаць. Але я не хацеў адкладваць адукацыю. У якасці варыянта думаў пра псіхалогію. Але для гэтага патрабавалася доўга вучыцца. Я не бачыў перспектыў. А вось з журналістыкай усё было прасцей. Я заўсёды ўмеў добра пісаць. Тады прадстаўнікі гэтай прафесіі яшчэ маглі добра зарабляць (цяпер кожны, хто мае фотаапарат, тэлефон і акаўнт у "Фэйсбуку", з'яўляецца журналістам). Гэта была практычная прафесія, таму я падумаў, што мне будзе лёгка ў ёй. Да таго ж журналістыка тады з'яўлялася моднай. Да Уотэргейта *(скандал у ЗША, калі журналісты выявілі, што прэзідэнт-рэспубліканец Рычард Ніксан загадаў праслухоўваць сваіх канкурэнтаў з Дэмакратычнай партыі)* яна не карысталася асаблівай папулярнасцю. Пасля Уотэргейта адмысловыя факультэты сталі ўзнікаць нібы грыбы пасля дажджу. У 1980-м, калі я атрымаў дыплом, факультэт журналістыкі быў і ў Калумбійскім універсітэце, і ў маім родным Нью-Ёркскім.

**– Але ж вы не пайшлі працаваць у газету або часопіс.**

– Тады я быў не гатовы працаваць журналістам. У Амерыцы трэба думаць пра дах над галавой. Ёсць дзве прафесіі, якія цябе забяспечаць: адвакат і доктар. Каб стаць прафесіяналам у абедзвюх, трэба шмат гадоў вучыцца. Я вырашыў стаць адвакатам, пачаў працаваць у фірме і адначасова наведваў курсы. Некалькі гадоў займаўся адміністрацыйнымі справамі і ўдосталь наглядзеўся на закуліссе. Напрыклад, нехта прыходзіць рабіць тэстамент. Я бяру "рыбу" – гатовы ўзор, куды ўстаўляецца патрэбная інфармацыя. Потым прыходзіць адвакат і выстаўляе рахунак на 500 долараў, хоць асабліва не ў курсе справы. Мне стала гэта нецікава. Зразумеў, што марную маладыя гады.

Таму я перайшоў у фінансавую кампанію, якая перакупляла даўгі. Сем-восем гадоў працаваў менеджарам аддзела кадраў. Праводзіў першаснае інтэрв'ю, пісаў у газеты тэксты аб'яў, што мы шукаем супрацоўнікаў.

**– Цікава, вашы калегі ведалі, што побач з імі працуе папулярны беларускі спявак?**

– Не. Не буду ж я сам пра сябе расказваць. Давялося "раскалоцца" толькі ў 1989 годзе. Я збіраўся ў Беларусь на месяц (мяне запрасіў Леанід Барткевіч, зорка "Песняроў", я пазнаёміўся з ім у Амерыцы). Таму давялося прасіць адпачынак за ўласны кошт і тлумачыць, навошта ён патрэбны. Начальства паставілася з цікавасцю. З падарожжа прывёз ім фотаздымкі і выразкі з газет, якія потым віселі ў кампаніі на стэндах.

Шчыра прызнацца, я ехаў не на канцэрты, а каб сустрэцца з маім дзядулем, якога ніколі не бачыў. Яшчэ да вайны ён развёўся з бабуляй, трапіў у войска. А яна засталася на акупаванай тэрыторыі. Пакольні разам з другім мужам яна працавала ў арганізацыі "Беларуская народная самапомач" (была створана для дапамогі беларусам, пацярпелым ад вайны), у 1944-м яны эмігрыравалі. Разам з імі з'ехала і мая прабабуля, родная сястра Антона і Івана Луцкевічаў, а таксама мая 12-гадовая маці. Дарэчы, яна з'яўляецца аўтарам кнігі ўспамінаў "Забыццю не адданае", якую жадаючыя могуць набыць у мінскім бюро Радыё Свабода. Дык вось, наша сям'я трапіла ў Нямеччыну, адтуль у ЗША. А дзядуля застаўся, стварыў новую сям'ю. Зараз адна з маіх цётак жыве ў Беларусі, другая – у расійскім Іжэўску.

**– Цяпер імя Данчык асацыіруецца з Радыё Свабода. Як вы туды трапілі?**

– Мая фірма знаходзілася на Брадвеі, на 50-й вуліцы. А Радыё мела сваю сядзібу недалёка, на 57-й вуліцы. Начальнікам нью-ёркскага бюро тады працаваў Ян Запруднік, стары сябра сям'і. Мая бабуля шмат гадоў працавала з ім на Свабодзе. Зрэшты, мы пазнаёміліся б з ім і так: беларуская эміграцыя была параўнальна невялікай, таму ўсе ведалі адзін аднаго.

Аднойчы мне патэлефанаваў Запруднік і запрасіў да сябе на абед. Я прыйшоў, хоць не ведаў, у чым справа. Высветлілася, што ён сыходзіць на пенсію і запрашае заняць яго месца. Гэта прапанова перакуліла маё жыццё.

У глыбіні душы я не думаў, што адкажу згодай. Ішоў 1992 год. Хадзілі чуткі, што Радыё Свабода хутка зачыняць. Нашто мне было сядаць на "Тытанік", у нью-ёркскім аддзяленні якога працавала з дзясятак чалавек *(смяецца)*? У мінулым, калі на Свабодзе яшчэ працавала мая бабуля, офіс літаральна кішэў людзьмі.

Але сумоўе мусіла праходзіць у Мюнхене. Я падумаў: чаму б не з'ездзіць у Еўропу? Усё ж аплачана *(смяецца).* Там мне спадабалася. Але на сумоўі прапанавалі працу не ў Амерыцы (неўзабаве мясцовае бюро наогул закрылі), а ў Мюнхене. Давялося рабіць выбар. Я ніколі не думаў, што пакіну Нью-Ёрк, які вельмі люблю. Да таго ж я не ведаў нямецкай мовы. Але ўсё ж такі прыняў рашэнне. Натуральна, было цяжка. Тады свет быў нашмат меншы, чым зараз. Людзі, якія пераязджаюць на іншыя кантыненты, не адчуваюць сябе такімі адарванымі ад усяго роднага. Я адпраўляў лісты за акіян. Тэлефанаваў рэдка, бо званкі каштавалі вельмі дорага.

**– Але чаму вы згадзіліся на пераезд?**

– Для мяне гэта быў цяжкі выбар. Я думаў: калі не паеду, ніколі сабе не прабачу, бо заўсёды буду думаць: "А што, калі б…" Я мусіў сабе даказаць, што не баюся. Гэта была галоўная матывацыя. Змяніць жыццё і паглядзець, ці змагу жыць у чужой краіне. Зрэшты, я вам прызнаюся, што была і празаічная прычына. У ЗША я пасля пяці гадоў працы меў толькі тры тыдні вакацый. А на Радыё Свабода мне адразу далі шэсць тыдняў. Не хапіла сіл ад такога адмовіцца *(смяецца).*

**– Але ж вы 12 гадоў не працавалі па спецыяльнасці. Прыйшлося цяжка?**

– Так, але не толькі па гэтай прычыне. Дагэтуль я карыстаўся беларускай мовай толькі ў штодзённым жыцці. Трэба было засвоіць новую лексіку, у тым ліку палітычную. Мне часта даводзілася быць перакладчыкам, прадзюсарам, манціраваць стужкі. Першыя гады было вельмі складана. Хоць праца была цікавая з самага пачатку.

У 1990-я гады яшчэ ішлі размовы, што Радыё Свабода зачыняць. Потым мы пераехалі ў Прагу, і адкрылася новае дыханне. З пачатку 2000-х я намеснік дырэктара Радыё Свабода. Займаюся ўсім: ад рэдактарскіх задач да адміністрацыйных.

**– Вашы прыхільнікі даўно не бачылі вас у Беларусі…**

– Згодны, апошні раз я быў у Беларусі вельмі даўно, больш за дзесяць гадоў таму. Але мая праца працягваецца 10 гадзін на дзень. Стамляюся. Ды апошнія чвэрць стагоддзя адной нагой жыву ў Еўропе, другой – у Амерыцы, дзе жыве мая старая хворая мама. Ёсць і свае побытавыя праблемы. Зрэшты, мая праца – і ёсць Беларусь, тое, што там адбываецца.

**– Калі з'яўляецца вольная хвілінка, чым займаецеся?**

– Мае хобі традыцыйныя: чытаю, гляджу фільмы. Наогул, з кнігай я кожны дзень. Па шчырасці, часцей чытаю па-англійску. Але з кнігамі Святланы Алексіевіч буду знаёміцца ў арыгінале. Пры перакладзе шмат губляецца.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

КРИМИНАЛ

## В Испании выдан ордер на арест нескольких россиян из ближнего круга Путина

В их числе – замдиректора ФСКН генерал Николай Аулов и депутат Государственной думы от «Единой России» Владислав Резник, ранее объявленные в международный розыск.

Аулов фигурирует в деле авторитета Тамбовской ОПГ Геннадия Петрова. В материалах следствия имеются данные о 78 телефонных разговорах Аулова, бывшего коллеги Владимира Путина по КГБ в Ленинграде и Петербурге, с Петровым.

Так называемое дело русской мафии расследуется в Испании с 2008 года. О нем стало известно после сообщения о проведении масштабной полицейской операции «Тройка», в ходе которой были арестованы несколько граждан РФ, предположительно связанных с тамбовской ОПГ. Геннадий Петров, по данным прессы, на раннем этапе был одним из акционеров банка «Россия». Его задержали в 2008 году, а в 2010-м выпустили под залог. В 2012-м он получил разрешение на временный выезд в Россию и обратно в Испанию не вернулся.

В 2008 году «в результате операции были арестованы оба криминальных авторитета (Петров и Александр Малышев) и еще около 20 человек, но в ходе длительного расследования обнаружилось, что мафиозная сеть более протяженная и имеет доступ в российские сферы власти», – говорится в статье издания El Mundo.

Ранее сообщалось, что Россия отказалась выдавать Резника Испании. Как пишет издание, «это крупная фигура в финансовом и политическом мире России, в сфере власти, наиболее близкой к Путину».

РЕЙТИНГ

## Лучшие вузы мира

В этом году в первой сотне рейтинга World Reputation Ranking британского издания Times Higher Education оказались три российских вуза: Московский государственный университет им.М.В.Ломоносова, Санкт-Петербургский государственный университет (СПбГУ) и Московский физико-технический институт (МФТИ).

МГУ в рейтинге оказался на 30-м месте, опустившись на пять позиций по сравнению с 2015 годом. СПбГУ попал в группу вузов, находящихся на 81–90-м местах. В прошлом году он находился в группе 71–80. МФТИ находится в самом конце рейтинга – в группе 91–100.

Рейтинг World Reputation строится на основе опросов преподавателей вузов. В этом году в нем участвовали 10 тысяч человек из 133 стран мира.

Первое место в рейтинге уже несколько лет подряд занимает Гарвардский университет.

На втором месте оказался Массачусетский технологический институт, который еще в прошлом году занимал четвертое место. Он уступает Гарварду в первую очередь в оценке качества образования. На третьем месте оказался Стэнфордский университет, который год назад был пятым.

Британские вузы в рейтинге в этом году ухудшили свои позиции. Кембриджский университет переместился со второго места на четвертое, а Оксфордский университет – с третьего на пятое.

СТОП-КАДР



**Селфі**

Канцлер Германіі Ангела Меркель раздае аўтографы і робіць селфі з вучнямі французскага ліцэя ў Берліне.

У СОСЕДЕЙ

## Президент выбрала место для дома



В литовской прессе появилась информация: Даля Грибаускайте приобрела 16 соток земли под строительство дома в новом жилом квартале в Вильнюсском районе. Там она намерена возвести дом, в котором будет жить после завершения срока полномочий на посту президента.

Согласно декларации, предоставленной Грибаускайте Главной комиссии по служебной этике, земля была куплена 23 февраля 2016 года.

Компании Forteka за участок президент заплатила 50.000 евро.

По данным Государственной налоговой инспекции, в 2014 году имущество и сбережения Грибаускайте оценивались в 2,45 миллиона литов, или 710.000 евро.

После появления информации о покупке земли президентом оставшиеся рядом свободные участки были разобраны молниеносно – некоторые даже вдвое дороже, чем заплатила Даля Грибаускайте.

СЛЫШАЛИ?

## ООН: в 2015 году в офшорах было укрыто от налогов почти 300 млрд долларов

В прошлом году компании вывели в офшоры почти 300 млрд долларов. Об этом свидетельствует доклад Конференции ООН по торговле и развитию (ЮНКТАД). Львиная доля этих денег, 221 млрд, оказалась на счетах компаний, зарегистрированных в странах с низкими налогами, прежде всего в Нидерландах и Люксембурге. Еще 72 млрд оказались в британской офшорной зоне на Виргинских островах.

Рекордсменами по уводу капитала от налогообложения в период с 2010-го по 2014 год были компании из Гонконга, США, России и Китая.

ЭВРИКА!

## Крупнейший научный прорыв

Американские и британские ученые впервые в мире смогли вырастить в лаборатории двухнедельные эмбрионы человека. Об этом говорится в статье, опубликованной в журнале Nature.

Впервые ученые показали, что человеческий эмбрион может развиваться больше нескольких дней, не находясь при этом в матке. Раньше считалось, что это невозможно.

Опыты были проведены учеными из Рокфеллеровского университета в Нью-Йорке: в течение 12 дней эмбрион развивался абсолютно нормально, хотя и находился в лаборатории.

Это является крупнейшим научным прорывом, который можно будет использовать при лечении бесплодия, а также ранних выкидышей.

Также это поможет ученым понять, как развивается человеческий организм и клетки. Эти знания помогут при лечении многих заболеваний.

Однако ученым пришлось прервать эксперимент из-за законодательных ограничений. В США, Великобритании и многих других странах действует «правило 14 дней»: человеческие эмбрионы нельзя культивировать в лаборатории в течение более чем двух недель. Раньше это правило никто не оспаривал, так как ученые не могли поддержать эмбрионы живыми так долго. Однако теперь ученым пришлось уничтожить их, чтобы не нарушить эти сроки.



